БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

10 лістапада 1994 г.
Чацвер
№ 120(13837)
Кошт у розніцу 40 рублёў
Выдаецца з 1921 года



Малюе Віктар ДУБОВІК



*Майстар спорту міжнароднага класа па мастацкай гімнастыцы, навучэнка Мінскага вучылішча алімпійскага рэзерву Вольга Гонтар — самая юная ў зборнай камандзе Рэспублікі Беларусь. Вользе ўсяго 15 гадоў, але яна ўжо даволі гучна заявіла аб сабе на буйных міжнародных спаборніцтвах. У 1993 годзе стала пераможцай юнацкага першынства Еўропы, а на Гульнях Добрай Волі ў Санкт–Пецярбургу ўвайшла ў тройку прызёраў. Сёлета ж на чэмпіянаце клубных каманд у Токіо Вольга таксама перамагла.*

*Цяпер юная гімнастка рыхтуецца да каманднага чэмпіянату свету па спартыўнай гімнастыцы, які пройдзе ў Дортмундзе.*

Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БЕЛІНФАРМ.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Яшчэ адзін крок у Еўропу

*8 лістапада ў Нацыянальным прэс–цэнтры Рэспублікі Беларусь адбылася прэс–канферэнцыя міністра замежных спраў Каралеўства Данія спадара Нільса Петэрсана, які знаходзіўся з афіцыйным візітам у нашай краіне.*

Прэс-канферэнцыю пачаў міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Сянько, які паведаміў, што беларускі бок задаволены перамовамі, якія, на яго думку, былі цікавымі, канкрэтнымі і разнастайнымі. Пад час візіту ў Мінск міністр замежных спраў Каралеўства Данія меў сустрэчы са Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета, Старшынёй Савета Міністраў і міністрам знешнеэканамічных зносін. Быў падпісаны шэраг дакументаў аб двухбаковым супрацоўніцтве.

Спадар Нільс Петэрсан у сваім выступленні зазначыў, што Данія можа паспрыяць у зносінах Беларусі з МВФ і Еўрапейскім саюзам. Асабліва спыніўся спадар Петэрсан на дамове "Партнёрства ў імя міру", якую на сённяшні дзень падпісалі 23 краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, у тым ліку і Расія. З падпісаннем дамовы нашай рэспублікай адносіны паміж Даніяй і Беларуссю, на думку міністра, стануць на якасна іншы ўзровень.

**Уладзімір СТАРАСЦЕНКА.**

### Прафсаюзы папярэджваюць

*Калі ўрад не ўлічыць патрабаванні прафсаюзаў па сацыяльнай абароне насельніцтва, то ўжо са снежня яны маюць намер перайсці да "актыўных масавых дзеянняў". Пра гэта заявіў на прэс–канферэнцыі старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Уладзімір Ганчарык.*

На думку ФПБ, выкананне Праграмы неадкладных захадаў па выхаду эканомікі рэспублікі з крызісу неапраўдана зацягваецца, у той час як у краіне расце беспрацоўе, заводы прыпыняюцца, а цэны нястрымна растуць. Прагучалі абвінавачванні і ў тым, што некаторыя пастановы, якія прымаюцца па антыкрызіснай праграме, пярэчаць Канстытуцыі і міжнароднаму праву. Таму Федэрацыя прафсаюзаў звярнулася да прэзідэнта з заклікам сабраць у самым хуткім часе грамадска-палітычны савет з удзелам урада, партый, наймальнікаў і прафсаюзаў, на якім неабходна разгледзець першыя вынікі ажыццяўлення праграмы і скарэкціраваць яе асобныя палажэнні.

**Наталля ВАЛАКІДА.**

### Новы пасол ЗША

*У Мінск прыбыў надзвычайны і паўнамоцны пасол Злучаных Штатаў Амерыкі ў Рэспубліцы Беларусь пан Кенэт Яловіц.*

У бліжэйшы час амерыканскі пасол мае намер уручыць вярыцельныя граматы прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку. Новы пасол ЗША заменіць на гэтай пасадзе Дэвіда Суорца.

### Дапаможа Балтыйскі універсітэт

*Аб новай праграме студэнцкіх абменаў аб'явіў Балтыйскі універсітэт.*

Як вядома, гэта навучальная ўстанова аб'ядноўвае універсітэты краін Балтыйскага рэгіёна, у тым ліку Беларусі, што вывучаюць праблемы экалогіі. Каардынуе работу Упсальскі універсітэт у Швецыі. Цяперашняя праграма, прапанаваная распрацоўшчыкамі, прызначана аказаць садзейнічанне прамысловасці рэгіёна ў выкарыстанні дэфіцытных рэсурсаў.

Як лічаць спецыялісты, ажыццяўленне праекта дасць цудоўны шанц прамыслоўцам атрымаць доступ да экалагічных ведаў. А студэнты лепш пазнаёмяцца з рэгіёнам, заадно прыгледзяць сабе будучае месца работы. Варта адзначыць, што ўсе расходы за пражыванне студэнтаў і кіраўнікоў возьме на сябе Балтыйскі універсітэт.

### Шклоўская міліцыя непакоіцца

*Работнікі аддзела ўнутраных спраў Шклоўскага райвыканкама занепакоены аховай сям'і Аляксандра Лукашэнкі.*

Справа ў тым, што ў прыгараднай вёсцы Рыжкавічы працягвае жыць і працаваць яго жонка Галіна Радзівонаўна. Тут жа ў сярэдняй школе вучыцца і малодшы сын кіраўніка дзяржавы Дзмітрый. Кіраўніцтва абласнога УУС звярнулася ў Магілёўскі аблвыканкам з просьбай павялічыць падраздзяленні патрульна-паставой і дарожнай службы ў Шклоўскім РАУС на 31 штатную адзінку, каб узмацніць ахову на тэрыторыі ўсяго раёна. У аблвыканкаме пакуль што не прынялі канкрэтнага рашэння, паабяцаўшы параіцца наконт гэтага з адміністрацыяй прэзідэнта.

### Мадэрнізацыя "Мінска–3"

*Адбылася сустрэча прэзідэнта беларуска–французскай кампаніі "Паратэн" Жан–П'ера Мюрга з намеснікам генеральнага дырэктара авіякампаніі "Трансавіяэкспарт" Віталем Паслушэнкам. Абмяркоўваўся праект атрымання замежных інвестыцый для мадэрнізацыі аэрапорта "Мінск–3" у Мачулішчах.*

На сустрэчы адзначалася, што Захад вельмі зацікаўлены ў развіцці транспартных шляхоў нашай рэспублікі.

**Уладзімір СТАРАСЦЕНКА.**

### Грузавікі ідуць на "дэмбель"

*Ваенная часць, якая знаходзіцца ў Полацку, перадала сельскай гаспадарцы сорак адзін аўтамабіль. Гэта грузавікі, зробленыя на лепшых аўтамабільных заводах. Неблагі падарунак збяднелым па цяперашнім часе гаспадаркам Віцебшчыны.*

На ўрачыстай цырымоніі ваенныя гаварылі аб змякчэнні міжнароднага напружання, ад якога ўжо зараз відавочную выгаду мае сяло.

### Музеі таксама вучацца

*Работнікі музеяў Віцебшчыны сабраліся на базе Полацкага гісторыка–культурнага запаведніка на семінар–практыкум, прысвечаны праблемам музейнай справы.*

У прыватнасці, быў абмеркаваны такі новы напрамак работы, як выкарыстанне ЭВМ у музеях.

**Уладзімір МІХНО.**

### Кіно ў "лістападзе"

*У Мінску прайшоў фестываль постсавецкага кіно "Лістапад–94".*

Чатырнаццаць карцін з Расіі, Францыі, Беларусі, Літвы, Грузіі, ЗША змаглі ўбачыць гледачы, якіх запрасілі ў гэтыя дні два сталічныя кінатэатры — "Кастрычнік" і "Цэнтральны". Фільмы славутых і пачынаючых рэжысёраў вельмі цёпла сустрэла мінская публіка. На фестывалі працавала кінематаграфічнае, журналісцкае і глядацкае журы, якое ў аўторак вечарам вынесла сваё рашэнне. Так, кінематаграфісты і гледачы лепшым палічылі фільм Мікіты Міхалкова "Ганна. Ад 6 да 18". Журналісты ж на першае месца паставілі карціну Міхаіла Пташука "Кааператыў "Палітбюро".

**Майя ШЭНДРЫК.**

### Курсы валют на 9 лістапада:

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 6760 | 6980 | 4444 | 4614 |
| "Алімп" | 6780 | 7050 | 4418 | 4603 |
| "Дукат" | 6750 | 7000 | 4400 | 4700 |

"ПАС" — палітыка-аналітычная служба

# Савецкі лістапад у парламенце

☐ **Якаў ЯСЭПКІН, "ЧЗ"**

*8 лістапада, у другі дзень былога галоўнага рэвалюцыйнага свята Краіны Саветаў, аднавіліся пленарныя пасяджэнні XVI сесіі беларускага парламента. Гэтаму папярэднічаў шэраг падзей так ці інакш звязаных з парламенцкімі праблемамі. Увогуле трэба зазначыць, што лістападаўскі дэбют сесіі адбываецца на даволі адметным фоне.*

Пакуль прэзідэнт папраўляў стан здароўя ў Сочы, у беларускім варыянце свой "бархатны сезон" перажываюць хіба што парламентарыі. І ён, вядома, праходзіць не пад паўднёвым развітальным сонцам. Хаця ў Авальнай зале дастаткова цёпла (12 прэзідэнцкіх градусаў, паабяцаных у Шклове для ахалоджвання парламенцкага тэмпераменту, засталіся толькі ва ўспамінах), апошні лістапад наўрад ці стане "бархатным". Неяк непрыкметна пахаладала, рэдкае лісце сыплецца за вокнамі Дома ўрада. Кастрычніцкага свята на нашых календарах (у адрозненне, напрыклад, ад расійскіх) больш няма. Між тым, некалькі тысяч мінчан памітынгавалі ў парку імя Горкага, а нядаўні саапернік Аляксандра Лукашэнкі ў перадвыбарчых змаганнях камуніст Васіль Новікаў выступіў па радыё з рэзкай крытыкай прэзідэнта. Дарэчы, Аляксандра Рыгоравіча памінаюць прадстаўнікі ледзь не ўсіх палітычных партый. Працэс пайшоў. Апроч "вертыкальных" і іншых заканатворчых страсцей (удзячная глеба для крытыкі) трэба ўлічваць, што практычна знята табу з публічнага памінання антыкрызіснай праграмы. Дакументу другі месяц, і праграмныя паказчыкі, зразумела, нявыкананыя, у значнай ступені аблягчаюць задачы апанентаў і антаганістаў. Прэзідэнт быў на лячэнні, таму лагічным падаецца часовы пераход ініцыятывы да парламента. Чаму паспрыялі ў немалой ступені пятае пленарнае пасяджэнне Міжпарламенцкай Асамблеі дзяржаў — удзельніц СНД у Санкт-Пецярбургу (у дасведчаных палітычных колах існуе меркаванне, што менавіта Паўночная Пальміра — парламенцкая сталіца Садружнасці — перахапіла ініцыятыву ў Мінска і Масквы ў Інтэграцыйным працэсе), візіт на Беларусь старшыні Савета Федэрацыі Расіі Уладзіміра Шумейкі, які завяршыўся прыняццем сумеснай са Старшынёй Вярхоўнага Савета нашай рэспублікі заявай. У ёй, нагадаем, Міжпарламенцкая Асамблея характарызуецца як рэальная аснова для паступовага перарастання ў міждзяржаўны парламент па тыпу парламента Еўрапейскага Саюза. Адбылося і пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета, дзе быў абмеркаваны пералік пытанняў, плануемых да разгляду з 8 па 11 лістапада. Сярод іх: унясенне змяненняў і дапаўненняў у закон "Аб Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь", "Аб банках і банкаўскай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь", "Аб выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь" і іншыя. Усяго плануецца разгледзець больш за 20 пытанняў. Відавочна, павышаную ўвагу выклікае абмеркаванне законапраекта аб выбарах, бо не сакрэт, якое значэнне надаюць выбарчаму заканадаўству літаральна ўсе палітычныя эліты. Прычым, сённяшнія дэпутаты ўяўляюцца тут самымі зацікаўленымі асобамі. Адкрыў пленарнае пасяджэнне ў аўторак Мечаслаў Грыб.

Спікер падвёў вынікі работы парламента за тры тыдні заканатворчай дзейнасці. На разгляд уносілася 55 пытанняў, разгледжаны 33. Гэта законы, якія прымаліся ў развіццё Канстытуцыі, а таксама дакументы, што датычаць станаўлення рынчнай эканомікі, неадкладных мер па выхаду з крызісу. Апроч ацэнкі дзейнасці Вярхоўнага Савета Мечаслаў Іванавіч засяродзіў увагу і на стане дысцыпліны ў ВС. Адзначыўшы, што 21 кастрычніка сесія вымушана была скараціць час работы на адну гадзіну з-за адсутнасці кворуму, Мечаслаў Грыб заклікаў парламентарыяў спакойна, без эмоцый правесці аналіз, каб убачыць плюсы і мінусы, зрабіць своеасаблівую справаздачу перад народам. Вырашана ўскласці кантроль і адказнасць за ўдзел у рабоце сесіі парламентарыяў на старшынь камісій ці асоб, якія іх замяняюць. Надалей у "розным" кіраўнік сакратарыяту будзе зачытваць спіс дэпутатаў, якія адсутнічалі ў мінулы дзень на пленарных пасяджэннях без уважлівых прычын. Прадугледжаны таксама меры матэрыяльнага ўздзеяння. Новыя правілы ўводзяцца ў практыку з 8 лістапада. Не сакрэт, у Авальнай зале дастаткова палітыкаў, у тым ліку і прадстаўнікоў "старой гвардыі", якія звязваюць пэўныя тактычныя і стратэгічныя мэты з дзейнасцю менавіта ў гэтым парламенце. У яго яшчэ ёсць палітычны час, асабліва, калі ўзяць у разлік неадназначную трактоўку тэрмінаў легітымнасці цяперашняга дэпутацкага сходу, якія пры збегу акалічнасцей могуць падоўжыцца.

Дарэчы, на пачатку парламенцкага тыдня "дасталося" і прэсе. А перад тым у "розным" лейтматывам выступленняў стала таксама газетная тэма. І ў "розным", і пасля прамовы Грыба прагучала нямала крытыкі па адрасу сродкаў масавай інфармацыі, у прыватнасці, "Известий". Эмоцыі прэваліравалі ў зале пасля прапановы дэпутата В.Піскарова стварыць парламенцкую камісію як рэакцыю на публікацыю "Известий" аб быццам існуючых сувязях М.Грыба з мафіёзнымі асобамі. Цікава, што прапанову падтрымалі і генпракурор В.Шаладонаў, і дэмакратычныя аўтарытэты С.Шушкевіч і З.Пазьняк. Пытанне было ўключана ў парадак дня. Яго рыхтуюць да абмеркавання І.Бамбіза і А.Новікаў. Такім чынам, лёгкага жыцця ў журналістаў, акрэдытаваных у парламенце, не прадбачыцца.

У парадак дня сесіі ўключаны яшчэ два пытанні: аб крэдытаванні ЖБК і інфармацыя С.Антончыка аб фактах карупцыі асоб, якія маюць адносіны да акружэння прэзідэнта.

І ўсё ж галоўную ўвагу дэпутаты ўдзялілі разгляду змяненняў і дапаўненняў у Закон "Аб Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь". Пытанне вельмі актуальнае і выклікае яно апошнім часам даволі неадназначную ацэнку банкіраў і ўвогуле дзелавых колаў. З трыбуны сесіі старшыня Нацбанка Станіслаў Багданкевіч абгрунтоўваў сваё бачанне праблемы. З ім не заўсёды пагаджаліся. Аднак многія прапановы знайшлі падтрымку. У закон унесены артыкул, які абвяшчае, што члены праўлення Нацыянальнага банка выбіраюцца Вярхоўным Саветам па прадстаўленні старшыні Нацбанка. Акрамя гэтага, у састаў членаў праўлення будуць выбірацца па аднаму прадстаўніку парламента і Кабінета Міністраў. Да 3-х месяцаў прадоўжаны тэрмін разгляду дакументаў на рэгістрацыю новых банкаў. Нацбанку адмоўлена ў дадатковых паўнамоцтвах па прад'яўленню санкцый камерцыйным банкам, якія праводзяць рызыкоўную крэдытную палітыку. Унесены таксама змяненні ў Закон "Аб банках і банкаўскай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь". Трэба заўважыць, што надалей службовым асобам і спецыялістам банкаў забараняецца адначасова займаць кіруючыя пасады і проста працаваць у іншых арганізацыях, на прадпрыемствах і ва ўстановах, незалежна ад форм уласнасці. Яшчэ важная навацыя: без ліцэнзіі Нацбанка забаронена ажыццяўленне некаторых відаў банкаўскіх аперацый, прынамсі, прыцягваць сродкі ва ўклады і дэпазіты, весці разлікова-касавае абслугоўванне кліентуры, праводзіць валютныя аперацыі і г.д. Але адхілена прапанова аб кантролі за сістэмай аплаты працы работнікаў камерцыйных банкаў. Няпроста праходзіла абмеркаванне пытанняў аб межах крэдытнай эмісіі, хутчэй за ўсё, спрэчкі выклікала яе размеркаванне. Праблема гэта, калі ўжыць ленінскі выраз, "архіважная", бо ад стану ў сферы фінансаў прама залежыць і ход рэалізацыі антыкрызіснай праграмы, і становішча ў прамысловай, сельскагаспадарчай вытворчасці, і, што галоўнае, узровень жыцця народа. Асноўнай падзеяй дня стала доўгачаканае выступленне старшыні Камісіі ВС па дзяржаўнаму будаўніцтву У.Леўчыка. Дэпутатам прапанавана вызначыцца з правіламі, па якіх пройдзе чарговая выбарчая кампанія. Сутнасць прапанаваных змяненняў і дапаўненняў у існуючае сёння заканадаўства патрабуе асобнай размовы. Скажам толькі, што погляды дэпутацкага корпуса падзяліліся і лінію падзелу цяжка будзе перайсці або сцерці. На дзённым пасяджэнні У.Леўчык адказваў на пытанні.

Рэспубліканская палітычная авансцэна ў пачатку лістапада ўпрыгожана, так бы мовіць, "савецкай" сімволікай. І справа, зразумела, не ў настальгічных успамінах аб рэвалюцыйным свяце, валодаўшых сэрцамі часткі суайчыннікаў. Прэзідэнцкая вертыкаль яшчэ ў будаўнічых лясах, а Вярхоўны Савет, па ўсіх прыкметах, мае цвёрды намер не пайсці ў палітычны цень па-англійску, не развітаўшыся, а, наадварот, "канкрэтнымі справамі даказаць, што народ не памыліўся ў нас", як сказаў М.Грыб.

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА

*Дзяжурныя па выпуску*
*перакладчык*
*Ларыса ДУДАРУК,*
*Людміла КАХАВЕЦ,*
*рэдактар*
*Наталля ВАЛАКІДА.*

## "Уорлднэт"

### У САРАЕВА – НОВЫЯ АХВЯРЫ

*Становішча ў Босніі напаляецца.*

Паўночна-ўсходняя частка Сараева зноў падверглася артабстрэлам, што прынесла новыя ахвяры.

### БЕРЛУСКОНІ НАВЕДАЎ ПАЦЯРПЕЎШЫХ

*Прэм'ер–міністр Італіі Сільвіо Берлусконі наведаў раёны, пацярпеўшыя ад паводкі.*

Паводле паступіўшых паведамленняў тысячы жахароў у Італіі засталіся без даху, каля 60 загінулі ў выніку стыхійнага бедства.

## "Суперчэннэл"

### ПАЛІЦЫЯ СУПРАЦЬ ФУНДАМЕНТАЛІСТАЎ

*Пад кіраўніцтвам міністра ўнутраных спраў Францыі ў Парыжы была праведзена аперацыя супраць ісламскіх фундаменталістаў.*

Паліцыяй арыштавана 95 чалавек, 12 з іх вызвалены пасля допыту. Акрамя таго, была канфіскавана вялікая колькасць зброі і выбуховага рэчыва, якія належалі фундаменталісцкім арганізацыям. Паводле сведчання паліцыі, арыштаваныя былі звязаны з тэрарыстычнымі групоўкамі Албаніі, Германіі, Брытаніі, Італіі, Канадзе і Нідэрландах.

### ФІНЛЯНДЫЯ ЧАКАЕ ШВЕЦЫЮ

*Фінляндыя адклала прыняцце рашэння аб уваходжанні ў Еўрапейскае супольніцтва.*

Урад вырашыў канчаткова вызначыцца па гэтаму пытанню пасля рэферэндуму ў Швецыі. Паводле апытання грамадскай думкі, за ўваходжанне ў Еўрапейскую супольнасць выказалася 57 працэнтаў насельніцтва Фінляндыі.

## "Еўраньюс"

### БЛІЗКІ ЎСХОД РАЗЗБРОЙВАЕЦЦА

*У Ірландыі завяршылася канферэнцыя арабскіх дзяржаў па пытаннях раззбраення.*

Прадстаўнікі 17 арабскіх дзяржаў і Ізраіля абмеркавалі пытанні скарачэння ваенных сіл у рэгіёне і прадухілення канфлікта на Блізкім Усходзе.

### РЭСПУБЛІКАНЦЫ СВЯТКУЮЦЬ ПЕРАМОГУ

*Як і меркавалася, у час выбараў у ЗША перамагла партыя рэспубліканцаў.*

Атрымаўшы пераважную большасць, яна абышла партыю дэмакратаў. Сярод тых, хто з радасцю сустрэў перамогу, і 62-гадовы сенатар Кенэдзі.

## "TV-5"

### МІЖНАРОДНЫ СУД АБВІНАВАЧВАЕ

*Міжнародны суд вядзе следства над ваеннымі злачынцамі.*

Сярод іх — былы начальнік лагераў Югаславіі Драго Нікаліч. Ён абвінавачваецца ў парушэнні правоў чалавека ў адносінах да зняволеных, а таксама ў выдачы загадаў на іх забойства.

*Працяг на 3 стар.*

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"



## БІЗНЕС-КЛАС

### У ЭМІРАТЫ, НА ВЫСТАЎКУ

Беларускія прадпрымальнікі, відаць, сур'ёзна спрабуюць заваяваць рынак збыту сваіх тавараў на Усходзе. І намечаная на снежань другая нацыянальная беларуская выстаўка ў Арабскіх Эміратах пацвярджае гэта.

Як паведаміў на праведзеным пасяджэнні аргкамітэта выстаўкі першы намеснік міністра прамысловасці рэспублікі Вячаслаў Некрашэвіч, які выязджаў на месца яе правядзення, беларускіх прадпрымальнікаў чакае добры прыём. У ходзе паездкі ўдалося вырашыць многія фінансавыя праблемы. У прыватнасці, бакі дамовіліся аб выдзяленні для нашых аўтамабіле- і трактарабудаўнікоў месца на адкрытай пляцоўцы выставачнага павільёна, аб бясплатным карыстанні тэхнічнымі сродкамі для афармлення стэнда. У распараджэнні членаў дэлегацыі рэспублікі будзе легкавы аўтамабіль. Вырашаны таксама арганізацыйныя пытанні па дастаўцы і размяшчэнні людзей у двух чатырохзоркавых атэлях. Акрамя таго, прадпрымальнікі, якія прымаюць удзел у выстаўцы, ужо атрымалі ўсю інфармацыю, што датычыць умоў правядзення гандлёвых аперацый у краіне.

Магчыма, у ходзе выстаўкі свой тавар на ўсходнім рынку змогуць паказаць беларускія мадэльеры, у стадыі перагавораў і пытанне аб прадастаўленні месца на выстаўцы беларускім кулінарам.

### "ЗЯЛЁНАЕ" СВЯТЛО ДЛЯ АЛЕЮ

У апошнія месяцы ў расійскай сталіцы днём з агнём не знойдзеш алею. У сувязі з гэтым рэзка знізіліся тарыфныя накруткі на ўвоз алею з-за мяжы. Сланечнікавы, соевы, рапсавы, свірэпавы, гарчычны алей цяпер можа ўвозіцца бяспошлінна.

БЕЛІНФАРМ.

### ПАГАНДЛЮЕМ!

Усходнееўрапейскі цэнтр гандлю "Гдыня-экспа" з 17 па 19 лістапада ладзіць эканамічны форум "Суседзі-94", у якім з украінскай і прыбалтыйскай дэлегацыямі будуць браць удзел і беларускія прадпрымальнікі.

Яны рыхтуюцца заключыць шэраг гандлёвых пагадненняў з вытворцамі суседніх краін, а таксама абмяркуюць разам з імі праблемы ўзаемаразлікаў і падаткаў, тавараабмену і мытнай неадрэгуляванасці гандлю. Важнымі для беларускай дэлегацыі стануць таксама перамовы з польскімі прадстаўнікамі аб магчымым выкарыстанні беларускімі вытворцамі порта Гдыні і яго мытных складоў.

Наталля ВАЛАКІДА.

### АБАРОНА ІНВЕСТЫЦЫЙ: З КІМ МЕЦЬ СПРАВЫ

Беларусь у апошнія гады заключыла шэраг пагадненняў аб узаемнай абароне інвестыцый з краінамі далёкага замежжа: ЗША, Вялікабрытаніяй, Францыяй, Германіяй, Швейцарыяй, Фінляндыяй, В'етнамам і КНР. Ужо падрыхтаваны да падпісання пагадненні аб узаемнай абароне інвестыцый з Галандыяй, Румыніяй, Швецыяй і Турцыяй.

Уладзімір СТАРАСЦЕНКА.

## ГІСТОРЫЯ І СУЧАСНАСЦЬ

# РЭБУС РЭВАЛЮЦЫІ

## Ці разгадаюць яго нашчадкі?

*У свой час Р.Пацёмкін, будучы фаварытам Кацярыны II і таму здольным "прасунуць" практычна амаль любы, як тады гаварылі, "пражэкт", патрабаваў ад кожнага "пражэкцёра" кароткую гістарычную даведку: "Ці было што падобнае ў мінулым і да чаго гэта прывяло?" Без такой даведкі "пражэкт" да разгляду не прымаўся...*



З чым, напрыклад, мог бы параўнаць сённяшнюю сітуацыю "пражэкцёр", прапанаваўшы выйсце з яе, калі б ад яго патрабавалі такую даведку? На гэта пытанне нават неспецыяліст, не задумваючыся, адкажа:" Канец Кастрычніцкай рэвалюцыі, як пісалі раней, або бальшавіцкага перавароту 25 кастрычніка (7 лістапада) 1917 г., як пішуць зараз... тая ж эканамічная разруха. Рост знешняга доўгу краіны. Скарачэнне прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці. Нежаданне сялян прадаваць хлеб дзяржаве па ўстаноўленых ёй цэнах. Беспрацоўе. Рост цэн на тавары першай неабходнасці... Толькі што вайны няма, але тое ж тлумачэнне ўсіх названых негатыўных з'яў перш за ўсё "знешнімі прычынамі".

25 кастрычніка 1917 г. не было выпадковасцю. У эканамічных адносінах гэта была састаўная частка працэсу ўстанаўлення і ўзмацнення дзяржаўнага кантролю за вытворчасцю і рэалізацыяй матэрыяльных і духоўных даброт, распачатага яшчэ царскім урадам. У сувязі з аб'яўленнем ваеннага становішча ён, як вядома, пачаў рэгуляваць функцыяніраванне галін, якія працавалі на абарону, транспартныя перавозкі, уводзіць рэгламентацыю продажу насельніцтву некаторых відаў харчу, увёў "паўсухі" закон... Часовы ўрад, прыняўшы ў яго "эстафету", увёў манаполію на гандаль вуглем, нафтапрадуктамі, рознымі відамі стратэгічнай сыравіны і харчу, у першую чаргу хлеба, і пачаў прадаваць яго па картачках... Савецкі ўрад узяў на ўлік практычна ўсю вырабляемую ў краіне прадукцыю і прысвоіў сабе манапольнае права вырашаць: якую частку яе пакідаць вытворцу, а якую забіраць на дзяржаўныя патрэбы. Гэта ж у сілу сваіх магчымасцей спрабавалі ажыццявіць і ўсе ўзнікшыя пасля яго антысавецкія ўрады, пачынаючы з калчакоўскага, дзянікінскага... і заканчваючы якім-небудзь "бацькам" тыпу Грыцыяна Таўрычаскага, які "аблажыў кожную хату ў Малінаўцы падаткам у паўсвінні", бо ўсе яны незалежна ад палітычнай афарбоўкі мелі патрэбу ў сродках як для ўласнага ўтрымання, так і для забеспячэння сваіх воінскіх фарміраванняў.

У палітычных адносінах 25 кастрычніка з'явілася той максімальна высокай кропкай, якой змог дасягнуць рэвалюцыйны працэс, які пачаўся ў Расійскай імперыі ў лютым (сакавіку) 1917 г. Такія "кропкі" былі і ў Англійскай рэвалюцыі XVII ст.(да разгрому левелерэраў), і ў Французскай XVIII ст. (якабінская дыктатура) і ва ўсіх іншых рэвалюцый. Пасля іх, як правіла, надыходзіў спад масавага рэвалюцыйнага энтузіязму насельніцтва, страты ім веры ў здольнасць палітычных лідэраў, якім быў аказаны давер, выканаць свае абяцанні і, як вынік, "скіданне" гэтых лідэраў блокам больш "левых" і ўсіх раней звергнутых "правых". У расійскім варыянце гэтага ў сілу шэрагу прычын не адбылося, і "кропка" ператварылася ў "злучок", які зацягнуўся амаль на 3/4 стагоддзя.

Да пачатку II Усерасійскага з'езда рабочых і салдацкіх дэпутатаў большасць палітычных партый, якія абяцалі па прыходзе да ўлады выканаць свае праграмы вываду краіны з крызісу шляхам правядзення рэформ "зверху", ужо сталі банкрутамі. Таму з'езд аддаў галасы тым, хто сам не вынаходзіў нічога, а абяцаў толькі стварыць умовы, пры якіх "працоўныя масы" самі (праз выбраныя і кантралюемыя імі Саветы) змаглі б вырашыць свае праблемы: салдаты — спыненне вайны, ліквідацыі свайго бяспраўнага становішча, сяляне — справядлівага, на іх думку, пераразмеркавання зямлі, рабочыя — устанаўлення кантролю за вытворчасцю і рэалізацыяй прадукцыі, гарадская бедната ў цэлым — паляпшэння жыллёвых умоў, забеспячэння прадуктамі харчавання, нацыі — рэалізацыі свайго права на самавызначэнне аж да стварэння незалежных дзяржаў і г.д.

Пры гэтым давер быў аказаны не толькі бальшавікам, якія прадстаўлялі, дарэчы, не маналітнае, а даволі разнастайнае па палітычнай афарбоўцы аб'яднанне прадстаўнікоў левых сіл у сацыял-дэмакратычным руху, некаторыя з якіх увайшлі ў яго незадоўга да падзей 25 кастрычніка. У склад абранага з'ездам Цэнтральнага выканаўчага камітэта, акрамя 62 бальшавікоў, увайшлі 29 левых эсэраў, 6 сацыял-дэмакратаў-"інтэрнацыяналістаў", 3 украінскія сацыялісты і 1 эсэр-максімаліст. Тое ж, што сфарміраваны ЦВКа "Часовы рабочы і сялянскі ўрад" (Савет Народных Камісараў) аказаўся па складу чыста бальшавіцкім, тлумачылася не "дэманстрацыяй сілы" бальшавікамі ў выглядзе штурму Зімняга і арышту Часовага ўрада, а толькі тым, што прадстаўнікі іншых левых партый, якія ўдзельнічалі ў гэтай акцыі, па тых ці іншых прычынах адмовіліся ўвайсці ў яго.

Памятаючы, што іх паўнамоцтвы канчаюцца са скліканнем Устаноўчага Сходу, члены ЦВК і СНК (не будзем высвятляць: хто шчыра, а хто, кіруючыся папулісцкімі меркаваннямі) пастараліся за адпушчаны час выканаць, хоць на паперы, максімум патрабаванняў, стыхійна сфармуляваных сацыяльнымі "нізамі" (салдатамі, рабочымі і сялянамі) у ходзе рэвалюцыі. Імі быў выпушчаны такі "залп" дэкларацый, дэкрэтаў і пастаноў, што лідэры ніводнага з узнікшых пазней антысавецкіх рухаў не змаглі прапанаваць гэтым "нізам" нічога больш прывабнага. Да таго ж, апошнім прыходзілася практычна рэалізоўваць свае праграмы, у той час як Савецкаму ўраду дастаткова было толькі пачаць рэалізацыю выдадзеных пастаноў, каб пераканаць "нізы", што ён — іх урад і робіць для іх усё магчымае, а калі не робіць, то хтосьці або штосьці перашкаджае гэтаму.

А пачынанні ўражвалі. Перамовы аб заключэнні міру без анексій і кантрыбуцый. Адмена смяротнага пакарання дэзерціраў са старой арміі, якіх налічвалася больш як 2 мільёны. Пачатак падзелу памешчыцкіх, манастырскіх і іншых зямель. Перасяленне бедннаты з трушчоб у багатыя кварталы. Канфіскацыя "лішкаў" прадуктаў харчавання ў прыватных уладальнікаў і павелічэнне за кошт гэтага, няхай ненамнога і ненадоўга, хлебнага пайка (у Петраградзе, напрыклад, с 1/4 да 1/2 фунта на 2 тыдні)... Ну як тут было большасці насельніцтва не паверыць, што Савецкі ўрад — добры, а ўсе яго праціўнікі — дрэнныя, тым больш, што насельніцтва на 3/4 было непісьменным, а большая частка, якая засталася, магла толькі чытаць і пісаць!

Гэта вера забяспечыла яму масавую падтрымку як у гады грамадзянскай вайны, так і ў наступныя дзесяцігоддзі, нават нягледзячы на пераход да камандных метадаў кіраўніцтва і адыход у сувязі з гэтым ад цэлага шэрагу абвешчаных ім жа раней прынцыпаў.

Так, "Дэкларацыяй правоў працоўнага і эксплуатуемага народа" ўся паўната ўлады на месцах перадавалася мясцовым Саветам, а цэнтральная ўлада павінна была фарміравацца іх з'ездам. Пры гэтым яны мелі права самі вырашаць: удзельнічаць ці не ў рабоце такога з'езда і фарміруемага ім урада. Але, каб пазбегнуць таго, што з-за непісьменнасці выбаршчыкаў дзе-небудзь у Саветы прабяруцца "контррэвалюцыйныя элементы" і адмовяцца слухаць загады "зверху", і іх аб'яднанні, уключаючы нацыянальна-тэрытарыяльныя, паступова пазбавілі магчымасці праяўляць якую-небудзь самастойнасць.

Па гэтых жа матывах права нацый на самавызначэнне было падменена правам цэнтральных кіруючых органаў вырашаць: якая супольнасць людзей заслугоўвае таго, каб называцца нацыяй, а якая не, і якую форму нацыянальна-тэрытарыяльнага суверэнітэту дараваць ёй. Былі практычна зведзены на нішто правы рабочага кантролю за дзеяннямі адміністрацыі па арганізацыі вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі, правы сялян на свабодны выбар форм гаспадарання на перададзенай ім дэкрэтам ад 26 кастрычніка (8 лістапада) 1917 г. зямлі без усялякага выкупу...

Гэтыя і іншыя "карэкціроўкі" першых, прынятых на хвалі рэвалюцыйнага ўздыму ўрадавых актаў часта проста не аналізаваліся большасцю "працоўных мас" з-за сваёй непісьменнасці. А калі на іх і звярталася ўвага, то яны ўспрымаліся як вымушаныя меры ператварэння краіны ў "адзіны ваенны лагер" на час барацьбы са знешняй і ўнутранай контррэвалюцыяй. Гэтак жа ўспрымалася і паступовае "ачышчэнне" дзяржапарату "зверху данізу" ад усіх іншадумцаў, спачатку прадстаўнікоў іншых партый (левых, эсэраў, сацыял-дэмакратаў-"інтэрнацыяналістаў" і інш.), якія аказаліся ў ім, а затым і ад розных "ухілістаў" у адзіна кіруючай камуністычнай партыі, якая засталася, бо "ў штабе ваеннага лагера не павінна быць рознагалоссяў, інакш..."

Да чаго ў рэшце рэшт прывяла гэта барацьба за ўстанаўленне "аднадумнасці зверху данізу"— агульнавядома, і няма неабходнасці паўтараць яшчэ раз, тым больш, што намі разглядаецца толькі адно пытанне: "Якія асаблівасці абумовілі састаў сфарміраванага 26 кастрычніка (8 лістапада) 1917 г. урада і далі магчымасць яму дабіцца таго, да чаго імкнуліся, але не змаглі дамагчыся ні царскі, ні Часовы, ні адзін са сфарміраваных пазней антысавецкіх урадаў — устанаўлення жорсткага кантролю практычна за ўсім эканамічным і палітычным жыццём краіны, як сродку вываду яе з крызісу шляхам ператварэнняў "зверху"?"

Аналіз падзей як тых, што папярэднічалі яго сфарміраванню, так і наступных дазваляе выявіць н а с т у п н а е :

1. Выбар для апоры канкрэтнага сацыяльнага асяроддзя, аб'яднанага ў дадзеным выпадку агульнай назвай "працоўныя масы" і афіцыйнае адмаўленне ад намеру праводзіць пераўтварэнні ў інтарэсах усіх без выключэння слаёў грамадства;

2. Папярэдняе вывучэнне комплексу патрабаванняў "працоўных мас" і найбольш папулярных варыянтаў іх выканання;

3. Уключэнне менавіта гэтых варыянтаў у праграму сваіх першачарговых, незалежна ад таго, кім яны былі распрацаваны. Так, ідэя фарміравання савецкай сістэмы кіравання "знізу ўверх" была ў многім запазычана ў анархакамуністаў, спіс мер па вырашэнню аграрнай праблемы – у левых эсэраў...

4. Заклік да "працоўных мас" актыўна ўключыцца ў працэс рэалізацыі на месцах абвешчаных мерапрыемстваў, хоць было зразумела, што большасці прадстаўнікоў гэтых "мас" адводзілася роля простых выканаўцаў;

5. Выкарыстанне для забеспячэння рэалізацыі праводзімых мерапрыемстваў крыніц сродкаў, якія раней не прымяняліся і не закранаілі інтарэсаў "працоўных" (у дадзеным выпадку – канфіскацыя памешчыцкіх зямель, прыватных банкаў, прадпрыемстваў і г.д.);

6. Спалучэнне праводзімых пераўтварэнняў з дэманстрацыяй "нарастання поспехаў", няхай нават нязначных...

Гэтыя і іншыя асаблівасці характару выбару і рэалізацыі першачарговых мерапрыемстваў і далі магчымасць атрымаць Савецкаму ўраду "вотум даверу працоўных мас" на доўгі перыяд. І падобна на тое, як штангіст, падымаючы на трэніроўцы тоны металу, адмаўляецца ад прапановы рабіць тое ж, а можа і менш, напрыклад, на складзе, няхай нават за плату, гэтыя "масы" на працягу дзесяцігоддзяў адмаўлялі ўсё, у чым бачылі хоць бы намёк на парушэнне прынцыпу добраахвотнасці іх удзелу ў эксперыменце пабудовы "светлай будучыні".

Таму і ў нашых умовах пры правядзенні антыкрызісных мерапрыемстваў варта выкарыстаць вопыт даволі нядрэннага палітыка кацярынінскай эпохі Р.Пацёмкіна, і, перш чым іх праводзіць, высветліць: што, дзе, калі і як ужо рабілася ў гэтым напрамку, у тым ліку і ў кастрычніку 1917 г. у былой Расійскай імперыі. Не для сляпога капіравання, а для ўліку вопыту мінулага пры дзеянні ў новых умовах.

Юры АФОНІН.







У Віцебску пры консульстве Латвійскай рэспублікі адкрылася Нядзельная латышская школа. Яе вучнямі сталі як дзеці латышоў, якія жывуць у абласным цэнтры, так і беларусаў і рускіх. За час навучання дзеці змогуць пазнаёміцца з гісторыяй і традыцыямі Латвіі, а таксама навучыцца пісаць і гаварыць па-латышску.

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ.

## СПАДЧЫНА



### Дрэмле памятка дзён

Унікальны куток беларускай гісторыі захаваўся ў Ашмянскім раёне. Тут, у мястэчку Гальшаны, быў калісьці цудоўны архітэктурны ансамбль. Тут жыў і правіў магнат Павел-Стэфан Сапега, адсюль пайшла радаслоўная польскіх каралёў сямейства Ягелонаў, з гэтых мясцін была і жонка знакамітага князя Вітаўта Юлія Альшанская...

Цяпер збудаванні прыйшлі ў заняпад, але, на шчасце, яшчэ засталіся неразбуранымі. У прыстасаваным памяшканні ў будынку касцёла знаходзіцца тут і філіял Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, дзе сабраны сотні ўнікальных экспанатаў. У сувязі з рэканструкцыяй касцёла музей можа пазбавіцца і гэтага памяшкання.

Цвярозы сэнс гаворыць за тое, каб размясціць экспазіцыю ў адрэстаўрыраваным унікальным замку Гальшанскім, які захаваўся да нашых дзён. Наплыў турыстаў тут быў бы вялікім: бо Гальшаны стаяць на скрыжаванні дарог у Прыбалтыку, Польшчу, усходнюю Беларусь.

Тэкст і фота Рамана КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

### ПРЫЕМНАЯ ЧАРГА

Зайшла ў тэатральную касу і здзівілася: ля акенца стаіць чарга па білеты. Спачатку падумалася, што, мажліва, прэм'ера ў якім-небудзь тэатры. Але не, звычайны рэпертуар. У чарзе ж стаялі маладыя людзі. І, як мне сказала касірка, калі меркаваць па прададзеных білетах, то людзі пачалі часцей наведваць тэатр, чым у мінулым тэатральным сезоне.

Прыемная нечаканасць. Чаго не скажаш пра кінатэатры. У адзін з вечароў зала "Кастрычніка" была амаль пустой. І так апошнім часам бывае дастаткова часта.

Гледачам надакучылі амерыканскія баевікі, нацешыліся яны і эротыкай і экзатычнымі карцінкамі, пасмяяліся з таннага гумару. Прыемна адзначыць, што людзі зноў пацягнуліся да сапраўднага мастацтва, якое, як вядома, не памірае.

Ганна МАСЛЯКОВА.

### КАЛІ АДБІРАЮЦЬ СВАБОДУ

З Наташай мы вучыліся разам у школе, толькі ў розных класах. У яе, як і ў нас, былі і піянерскія, і камсамольскія добраахвотна-прымусовыя сходы са шматлікімі "паперкамі" і пратаколамі, заклікі выконваць розныя статуты і наказы.

Нядаўна я зноў сустрэлася з ёй. Сумны позірк, патухлыя вочы. "Я верыла",— сказала дзяўчына і колькі болю было ў гэтых словах.

Мне падумалася, што ёй не хапае ўнутранай свабоды. Нас вучылі слепа верыць фальшы, хлусні гарлахватаў. "Чалавека няма — ёсць грамадзянін". Але кожны грамадзянін — гэта яшчэ асоба, у якой ёсць свае захапленні, думкі, мары. А ўсё гэта перакрэслілі. Кожнага чалавека нехта ў жыцці падманваў. А ці лёгка быць падманутым пакаленнем?

Я мяркую, свабода — гэта ўменне карыстацца кожным імгненнем жыцця, мець свае думкі — уласныя думкі, якія, магчыма, будуць не такія, як у іншых.

Канешне, жыццё не можа ісці па трафарэту, яно цячэ, у ім ёсць часам і перакаты, лёд, бурная плынь. Але ў фальш верылі амаль усе, і хадзілі на сходы амаль усе, і канспектавалі працы нашых кіраўнікоў. Крыўдна і балюча за Наташу і за тых людзей, якія верылі да фанатызму. Зараз яны сталі яшчэ больш "закаваныя". Не трэба, мне здаецца, маўчаць там, дзе топчуць жывую душу. І трэба быць сабой заўсёды, таму што жыццё — імгненне.

Святлана ЧАРНАЯ.

### У ЧАКАННІ РАМОНТУ

Усё сваё жыццё я і мой муж Іван Міканоравіч прапрацавалі ў арганізацыі МПМК-188 г.Валожына. Адтуль і на пенсію пайшлі. Працавалі добра. Ніхто дрэннага слова не сказаў. Адны падзякі, прэміі. Брыгада ў нас была невялікая — тры чалавекі. Як толькі з'явіцца які-небудзь новы аб'ект, адразу ж клічуць брыгаду Александровіча. Маўляў, працуюць добра і ў тэрмін робяць усё, ды і не патрабуюць лішняга. Работу прыходзілася рабіць розную: і тынкаваць, і плітку класці, і фарбаваць, і бяліць. І так, пакуль на пенсію не пайшлі. Праўда, мой муж да пенсіі месяц не дацягнуў. Не паспеў парадавацца пенсіяй. Падхапіў рак лёгкіх. А захварэць было няцяжка. Увесь час на скразняках. І ў дождж, і ў холад на адкрытых машынах ездзілі на будаўнічыя пляцоўкі. Я таксама хворая. Яшчэ калі працавала, мне давалі II групу. Урачы забаранілі працаваць.

Ад МПМК-188 мы з мужам атрымалі двухпакаёвую кватэру ў цэнтры горада. Ужо больш як 20 гадоў у гэтай кватэры жыць немагчыма. Батарэі не грэюць, сцены і столь зімой робяцца чорнымі. У гэтым годзе нават падлога адсырэла. Пратрэш яе сухой анучай, а праз некалькі мінут яна зноў мокрая. Босымі нагамі на такую падлогу не ступіш. Класціся спаць прыходзіцца апранутай, у адваротным выпадку — да раніцы замерзнеш. Выклікалі камісію (кожны год на працягу 20 гадоў). Прыходзілі глядзелі. Санстанцыю запрашалі, замяралі вільготнасць паветра ў кватэры. Вільготнасць вельмі вялікая. Рукамі за галаву хапаліся, войкалі. Спачувалі, акты складалі. Гаварылі, прыходзьце вясной, зоймемся вашай кватэрай — усё будзе добра. Вясной мы прыходзілі да начальніка МПМК-188, а ён — пачакайце крыху да пачатку ацяпляльнага сезона і ўсё будзе ў норме. Глядзіш — лета закончылася, а ўсё абяцаюць...

Н.І.АЛЕКСАНДРОВІЧ, г.Валожын.

## ПА-СУСЕДСКУ

### СУД ГОНАРУ ЛІТОЎСКАГА ПРЭМ'ЕРА

*Літоўскі прэм'ер Адольфас Шляжавічус, які вярнуўся пасля афіцыйнага візіту ў Вялікабрытанію, з'явіўся ў другі гарадскі суд Вільнюса, дзе вядзецца справа па іску, пададзенаму кіраўніком Літоўскага ўрада аб абароне гонару і годнасці.*

Справа ўзбуджана супраць лідэра правай апазіцыі Вітаўтаса Ландсбергіса, які 28 верасня на прэс-канферэнцыі, што трансліравалася па радыё, выказаў падазрэнне, што прыватызацыя аднаго з кафэ літоўскай сталіцы магла быць выгадна прэм'еру.

Адказчык на суд не з'явіўся. Яго адвакаты запатрабавалі, каб ім прадставілі ўсе дакументы прыватызацыі кафэ, з-за якога ўся гэта каша заварылася. Патрабаванні гэтыя судом прыняты, і ў працэсе аб'яўлены перапынак да 5 снежня.

### БАНДЫ НА РЫНКУ ЖЫЛЛЯ

*У жыллёвым дэпартаменце Масквы правялі "круглы стол", прысвечаны праблемам прыватызацыі і куплі кватэр. Начальнік дэпартамента Мікалай Маслаў адназначна сказаў: на рынку жылля ў Маскве дзейнічаюць цэлыя банды і паводзяць яны сябе вельмі дзёрзка.*

Справа ў тым, што міліцыя не мае дастатковай інфармацыі аб тых крымінальных працэсах, якія адбываюцца на рынку кватэр, паколькі ў ГУУС Масквы жыллёвымі праблемамі займаюцца толькі тры супрацоўнікі. Рыэлтэры — гандляры кватэрамі і нерухомай маёмасцю — ужо сёння гатовы стварыць спецыяльны фонд падтрымкі міліцыі і дапамагчы ў яе аснашчэнні неабходнай тэхнікай, але "вартавыя парадку" не спяшаюцца заняць свабодную нішу на рынку гандлю жыллём.

### ЗНІК АПОШНІ ПОМНІК

*У Крамлі дэманціраваны апошні помнік У.І.Леніну.*

З 1967 года, паводле задумкі архітэктара Пінчука, Ільіч мірна сядзеў на лаўцы ў адным са скверыкаў на Іванаўскай плошчы, а цяпер знік. Паводле афіцыйнага паведамлення, існаванню помніка перашкодзіла падземная траса каналізацыі, якая праходзіла якраз пад ім.

БЕЛІНФАРМ.

## ЗДАРЭННІ І КУР'ЁЗЫ

### "ЖАРТ" ВЫЛЕЗ БОКАМ

*На здзіўленне "жартаўнікоў", якія паведамілі па тэлефоне "02" аб быццам бы падкладзенай у адной са школ Віцебска бомбе, міліцыя адправілася не па ўказаным двума дзевяцікласнікамі адрасе, а прама да іх дадому.*

Гэта ўжо другі "жарт" у Віцебску на працягу кастрычніка. Раней ён датычыў кінатэатра "Беларусь". Паведамленне пра кошт выезду, напрыклад, пажарнай машыны (а кіламетр яе прабегу каштуе 1500 рублёў) ніякага ўздзеяння на "жартаўнікоў" не зрабіла. Але, як аказалася, міліцыя прыняла і іншыя меры. Бацькі гэтых "жартаўнікоў" кампенсуюць цяпер расходы, якія панеслі вартавыя правапарадку.

### "ГАРЭЛАЧНАЕ НАШЭСЦЕ"

*Не ведала яшчэ такога "гарэлачнага нашэсця" станцыя Брэст–Паўночны, дзе арганізаваны перавалачныя работы ў сувязі з рознымі памерамі чыгуначнай каляі на Захадзе і ў нас.*

Калі раней у гэты час асноўныя клопаты былі звязаны з транзітам бульбы, то цяпер з-за мяжы ў вялікай колькасці хлынула гарэлка. Штодзённа яе прыходзіць сюды да трыццаці вагонаў. Пасля перагрузкі поезда вязуць гэты ярка размаляваны напітак нашым усходнім суседзям. Уражанне такое, што ўсе расійскія лікёра-гарэлачныя заводы спыніліся.

### РАБУЮЦЬ... МІЛІЦЫЮ

*Казусная сітуацыя. Але для В.Канюшэнкі, начальніка Аршанскай чыгуначнай міліцыі, яна зусім не смешная, а нават сумная — з гаража, які не ахоўваўся, сарваўшы навясны замок, злачынцы выкралі службовую аўтамашыну.*

Падпалкоўнік звярнуўся па дапамогу да калег тэрытарыяльнага аддзела. Хутка за горадам знайшлі прапажу. Злачынцы здаволіліся толькі тым, што вырвалі, як кажуць, "з мясам", радыёстанцыю. Застаецца чакаць, калі яна адклікнецца не на борце міліцэйскага "УАЗа", а з камфартабельнай скораснай машыны замежнай маркі.

### І "ЖЫГУЛІ" ЎМЕЮЦЬ ЛЯТАЦЬ

*Не па ўласнаму жаданню ўзляцеў у паветра легкавы аўтамабіль. Падняў яго выбух.*

Здарылася гэта ў Віцебску, ля дома па Маскоўскім праспекце. Відовішча не з прыемных. Тым больш не пазайздросціш уладальніку. Хоць мясцовыя сышчыкі прытрымліваюцца іншай думкі. Спаленая аўтамашына — палова бяды. Відаць, у кашулі нарадзіўся намеснік начальніка транспартнай службы аднаго з акцыянерных таварыстваў, паколькі яго не аказалася ў той момант у салоне. "Жыгулі", як вядома, проста так не ўзлятаюць.

### "ІКОРНЫ" ЦЯГНІК

*153 бляшанкі чорнай ікры на суму 2 мільёны 666 тысяч рублёў знайшлі пагранічнікі пункта пропуску "Брэст–Цэнтральны" ў адным з вагонаў поезда Масква—Прага.*

У вагоне другога поезда, які ішоў з Сімферопаля ў Варшаву, прыкладна на тую ж суму канфіскавалі 10 фрэзерных электрамашын. Паколькі такія каштоўныя грузы былі знойдзены не ў купэ, а на так званай нейтральнай тэрыторыі, то іх гаспадары мелі поўнае права не аб'яўляцца. Што яны і зрабілі.

### НАСТАЎНІК–КАТ

*На два гады пазбавіў волі Докшыцкі нарсуд настаўніка адной са школ раёна, выбраўшы яму мерай стрымання прыцягненне да працы ў месцах нагляду.*

Настаўнік-мучыцель абвінавачаны ў сістэматычным нанясенні пабояў, якія па характару з'яўляюцца катаваннем, 13-гадовай прыёмнай дачцэ.

## МАРАЛЬНЫ КОДЭКС

# "Чужыя" дзеці

☐ Лілія НАВІЦКАЯ

Калі мы прыехалі ў Шчучынскі раённы аддзел народнай адукацыі, у актавай зале ішла лекцыя для педагогаў, і нашага будучага субяседніка інспектара раёна Сцяпана Станіслававіча Кучука ўбачылі сярод слухачоў. Час прыспешваў нас. Яго суседка па кабінету спачувальна ўсміхалася, але нічым дапамагчы не магла. Наўрад ці што прымусіла б Сцяпана Станіслававіча ўстаць і выйсці з залы — гэта было б непавагай да лектара.

Другі дзесятак гадоў працуе Кучук інспектарам па ахове дзяцінства. За гэты час да яго прынцыповасці прызвычаіліся і калегі, і ўсе астатнія, з кім прыходзіцца весці справы. Ён шануе людзей за працоўныя і асабістыя якасці, з рэдкай у наш час адказнасцю ставіцца да сваіх абавязкаў і зусім не гоніцца за славай. Такія людзі сустракаюцца нячаста, і з імі не заўсёды лёгка. Затое тым, дзеля каго ён працуе, — дзецям з цяжкіх, няпоўных сем'яў, якім не пашанцавала з бацькамі, — можна сказаць, пашчасціла са Сцяпанам Станіслававічам. Ні адзін паламаны дзіцячы лёс не пакінуў ён без падтрымкі.

У інспектара па ахове дзяцінства пасада няўдзячная. Нават калі маці п'е, гуляе, а то і б'е дзіця, для яго яна ўсё ж мама. А добразычлівыя цёткі і дзядзькі з інтэрнатаў і дзіцячых дамоў — чужыя людзі. І таму перш чым аддаць дзіця "ў рукі грамадскасці", Сцяпан Станіслававіч спрабуе выкарыстаць усе магчымасці, каб пакінуць яго з роднымі.

Так адбылося з дзесяцігадовай дзяўчынкай з невялікай вёскі ў Шчучынскім раёне. Бацька пакінуў сям'ю, і малая засталася з мамай, але здарылася няшчасце — жанчына памерла. Бацька ж ні разу не пацікавіўся лёсам дачкі. На прапанову забраць да сябе дзіця адказаў адмовай і быў пазбаўлены бацькоўскіх правоў. На шчасце, дзяўчынцы дала прытулак цётка, сястра маці, і ў малой з'явілася новая сям'я. У школе яна лічыцца развітой, старраннай вучаніцай. І хоць перажытае, вядома ж, пакінула свой след, з часам дзяўчынка "адагрэецца" сярод родных.

Усяго ж на пачатак 1994 года Сцяпан Станіслававіч змог уладкаваць у прыёмных сем'ях 55 дзяцей. Гэта каля сямідзесяці працэнтаў яго падапечных.

Але бывае, на жаль, і так, што толькі інтэрнат можа выратаваць дзіця. Такія рашэнні заўсёды прымаюцца з цяжкасцю і пакідаюць сумненні ў душах тых, хто вырашае лёс беспамоцнага маленькага чалавечка.

Вось шасцігадовы хлопчык-інвалід з парушэннямі слыху і мовы. Бацька заклейваў немаўляці вусны лейкапластырам, каб дзіця не перашкаджала спаць. Пасля разводу маці пакінула аднагадовага сына ў бабулі і стварыла новую сям'ю. А нікому не патрэбны хлопчык трапіў спачатку ў Лідскі дзіцячы дом, а потым у Парэцкую спецшколу-інтэрнат для дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў. Толькі праз некалькі год маці "ўспомніла" пра бацькоўскія абавязкі. Аднак, азнаёміўшыся з умовамі жыцця ў новай сям'і, камісія прыйшла да высновы, што наўрад ці хлопчыку тут будзе лепш. Будучы айчым п'е, грошай не хапае. Ні патрэбнага дагляду, ні своечасовага паўнацэннага харчавання, ні тым больш медыцынскай і дэфекталагічнай дапамогі родзічы хвораму дзіцяці забяспечыць не змогуць. І таму давялося пакінуць яго пад апекай дзяржавы.

Не справіліся родныя і з выхаваннем чатырнаццацігадовага падлетка. Маці, пакінуўшы яго ў бабулі, пераехала ў Гродна, дзе ў хуткім часе нарадзіла дачку. А бабуля, як ні старалася, не змагла справіцца з непаслухмяным унукам. Хлопец трапіў у "дрэнную" кампанію, пачаў прапускаць заняткі ў школе, вучыцца горш і горш. Было ясна, што без умяшання школы і раёна малады чалавек сапсуе сабе жыццё ў самым пачатку. І калі маці канчаткова адмовілася забраць сына, аддзел народнай асветы вынес заключэнне аб неабходнасці пазбаўлення яе бацькоўскіх правоў.

Перш, чым прапанаваць такія захады, інспектар добра знаёміцца і з самімі дзецьмі, і з іх роднымі. І вельмі часта дзеці пранікаюцца глыбокім даверам да гэтага "чужога дзядзькі". Нездарма ж калега Кучука з павагай і нават некаторай доляй прафесійнай зайздрасці распавядала аб тым, як падлеткі прыходзяць да яго па параду і дапамогу ў любы цяжкі момант. Спачатку ён дапамагае ім выбраць прафесію. Потым сочыць за тым, каб маладому чалавеку прадаставілі ўсе прадугледжаныя законам ільготы. Так, 13 падапечных Кучука ў мінулым годзе былі ўладкаваны на поўнае забеспячэнне ў інтэрнаты, ПТВ, ССНУ і ВНУ.

Для многіх Сцяпан Станіслававіч змог адшукаць бацькоў, што хаваліся ад аліментаў. І не толькі ў бліжэйшых ад Шчучынскага раёнах. Напамінкі пра неабходнасць клапаціцца аб уласным дзіцяці знаходзілі бацькоў у розных гарадах нашай неабсяжнай да нядаўняга краіны: у Душанбе і Санкт-Пецярбургу, Львове і Омску, Вентспілсе і Цюмені.

А дзяўчаты, тыя наогул прыходзяць да інспектара пагаварыць нават аб асабістым жыцці. Ці выходзіць замуж? Каго з двух выбраць? І нават як карыстацца касметыкай? Такія "не свае" пытанні даводзіцца часам вырашаць Сцяпану Станіслававічу. Затое калі яны становяцца дарослымі, ствараюць свае добрыя, стабільныя сем'і, гадуюць дзяцей — у іх асабістым шчасці ёсць заслуга інспектара. І, напэўна, менавіта ў гэтым галоўны сэнс яго працы, у параўнанні з якім адзнакі пашаны і слава становяцца другараднымі, не самымі важнымі рэчамі.

## КНІГАРНЯ

# Погляд у далеч— праз мінуўшчыну




☐ Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

*Сёння нам усім нестае гістарычнай адукацыі. Таму, відаць, з дня ў дзень большае на паліцах кнігарняў кніжак па беларускай гісторыі. Пра навінкі — самага рознага накірунку і плана — у гістарычна-краязнаўчым працягу сучаснага айчыннага кнігавыдання і пойдзе сённяшняя наша размова.*

Беларускі дзяржаўны універсітэт (а дакладней — навукова-даследчая лабараторыя гісторыі Беларусі гістфака) прадставіў шырокаму колу чытачоў (тыраж — 20 тысяч экземпляраў) даведачна-інфармацыйны дапаможнік "Гісторыя Беларусі". Унікальнасць гэтай працы, якую ажыццявіла група аўтараў, а задумалі і правялі навуковае рэдагаванне А.Г.Кахаsucceedоўскі і А.А.Яноўскі, заключаецца ў тым, што кніга — найлепшы дарадца для самастойнай падрыхтоўкі да здачы ўступнага экзамену на гуманітарныя факультэты ВНУ рэспублікі. Матэрыял, выкладзены ў дапаможніку, размеркаваны па тэмах. У межах кожнай — пяць раздзелаў. У першым прадстаўлены галоўныя падзеі, якія адбыліся ў азначаны перыяд. Другі раздзел прадстаўляе значных асоб. У трэцім — характэрныя тэрміны, паняцці, назвы. Чацвёрты раздзел складаецца з характэрных пытанняў па тэме і кароткіх адказаў на іх. Словам, калі вы вялікі свавольнік і пасрадзяваліся, што да экзамену ў ВНУ можна падрыхтавацца за дзень-два, то наўрад ці знойдзеце лепшы падручнік, чым згаданы дапаможнік. А для больш сур'ёзных абітурыентаў ёсць і пяты раздзел — "Прыкладны спіс літаратуры па тэме".

І яшчэ адзін дапаможнік — "Гісторыя Беларусі" (Мінск, НКФ "Экаперспектыва"). Хаця і тыраж яго намнога меншы (усяго толькі 6000 асобнікаў), відавочна, што кніга разлічана на старшакласнікаў, якім заўтра давядзецца здаваць уступны экзамен па гісторыі Беларусі. А як на мой прыватны погляд, то дапаможнік будзе карысны ўсім, хто імкнецца ліквідаваць прабелы ў веданні гісторыі Беларусі.

У шэрагу выданняў гістарычна-краязнаўчай тэмы праца Язэпа Найдзюка і Івана Касяка "Беларусь учора і сёння" (Мінск, "Навука і тэхніка") займае асобнае месца. У свой час гэтая кніга ўжо была выдадзена — больш за паўстагоддзя таму. Але тады ў "Беларусі..."меўся толькі адзін аўтар папулярнага нарыса па гісторыі нашай Айчыны — Язэп Найдзюк, вядомы дзеяч беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі. Праўдзівае выкладанне гісторыі Радзімы зрабіла кнігу ў свой час настолькі папулярнай, што рэдкія яе экземпляры перапісвалі нават ад рукі. Іван Касяк дапоўніў кнігу сучасным матэрыялам, які крыху выбіваецца з кантэксту працы Я.Найдзюка, але, тым не менш, цікавы і займальны ўжо сам па сабе. "Беларусь учора і сёння" выдадзена Таварыствам беларускай мовы імя Ф.Скарыны і распаўсюджваецца ў шапіках гэтай грамадскай арганізацыі.

І калі мы дагэтуль згадвалі працы агульнага накірунку, кнігі ўсеабдымныя, так бы мовіць, то зараз, настойліва вам раю, звярніце ўвагу на кнігу Віктара Сцяпанавіча Цітова "Народная спадчына" (Мінск, "Навука і тэхніка"). Тыраж яе, дарэчы, усяго толькі 2860 экземпляраў. Праўда, пакуль што выданне гэтае ляжыць у "Кнігарні пісьменніка", недалёка ад кінатэатра "Мір" беларускай сталіцы. Мажліва, падзагаловак манаграфіі — "Матэрыяльная культура ў лакальна-тыпалагічнай разнастайнасці" — у камусьці адаб'е ахвоту нават распачынаць знаёмства з даследаваннем. І дарэмна. "Народная спадчына" — цікавае падарожжа па ўсёй Беларусі, знаёмства з драўляным дойлідствам, народным адзеннем, іншымі разгалінаваннямі матэрыяльнай культуры. Шырока выкарыстоўваюцца ў кнізе звесткі сумежных дысцыплін — гісторыі, археалогіі, геаграфіі, дыялекталогіі, фалькларыстыкі. Як падкрэсліваецца ў выдавецкай анатацыі, "упершыню асвятляюцца рэгіянальна-тыпалагічныя асаблівасці звычаяў і абрадаў".

Дарэчы тут будзе нагадаць і выдавецкую рэкламу, змешчаную пад адной вокладкай з працай В.Цітова. "Навука і тэхніка" абяцае хуткую сустрэчу з першым тыпам манаграфічнага даследавання "Беларусы". У гэтым томе — расповед пра прамысловыя і рамесныя заняткі нашых прашчураў. А дакладней — пра збіральніцтва, паляўніцтва, пчалярства, рыбалоўства, лясныя і лесахімічныя промыслы, пра ткацтва, кавальства, дрэваапрацоўку, ганчарства, пляценне, віццё, вышыўку і г.д.

1994 год — год 200-х угодкаў паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Падзея гэтая даўно ўжо стала прадметам палітычных рознагалоссяў, высвятлення прыхільнасцяў і сімпатый. І шкада, што за многімі выказваннямі ў сродках масавай інфармацыі грунтуецца элементарнае няведанне тагачасных — двухсотгадовай даўнасці — падзей. Чаму б не звярнуцца па аргументы да дарадцаў-гісторыкаў? Магчыма, і да гэтых вось кніг: Уладзіміра Емяльянчыка "Паланез для касінераў" (у падзагалоўку — "З падзей паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі на Беларусі") і Міхася Грыгор'ева "Войска Вялікага княства Літоўскага ад Сасаў да Касьцюшкі (1765—1794)". І калі першая з кніг пабачыла свет у выдавецтве "Беларусь", то другое даследаванне — толькі дзякуючы прыватнаму выдаўцу Зміцеру Салошкіну. Пра характар "Паланеза для касінераў" выразна гавораць наступныя словы з прадмовы "Да чытача": "Аўтар ставіў сабе за мэту расказаць пра забыты "беларускі след" у паўстанні 1794 года. Гэта — адна з першых спроб у такім накірунку. Не ўсё ўдалося ахапіць, не дастаткова поўна выказацца аб усім. Дадзеная кніга, разлічаная на шырокага чытача, — толькі падступ для далейшых пошукаў і знаходак".

Даследаванне ж Міхася Грыгор'ева ўражвае багатым інфармацыйным матэрыялам, мноствам ілюстрацый. Знаёмства з "Войскам ВКЛ..." дае спадзяванне, што з часам будзе выдадзены і сапраўдны альбом беларускай вайсковай формы.

Чытач, які цікавіцца гісторыяй, ужо заўважыў традыцыю выдавецтва "Мастацкая літаратура" збіраць своеасаблівы гістарычна-публіцыстычны альманах "З гісторыяй на "Вы". Толькі што пабачыў свет трэці яго выпуск. На гэты раз укладальнік і аўтар уводнага слова — Янка Запруднік. Ізноў жа прадстаўляем выданне — кароткай цытатай з прадмовы (у кнізе захоўваецца правапіс беларускіх эміграцыйных выданняў): "Вы трымаеце ў руках кнігу, якая дасць Вам уяўленне пра беларускую палітычную эміграцыю, у асноўным, канца 1940-х — пачатку 1950-х гадоў: пра ідэалагічныя погляды, палітычныя кірункі, арганізацыйныя праблемы". Да слоў Янкі Запрудніка варта дадаць, што ў кнізе "З гісторыяй на "Вы" — публікацыі, што даюць уяўленне аб нацыянальнай беларускай ідэалогіі на пэўным адрэзку часу. Сярод аўтараў зборніка — Станіслаў Станкевіч, Леў Акіншэвіч, Мікола Куліковіч, Антон Адамовіч, Юрка Віцьбіч і шмат хто яшчэ.

Рубрыка "Кнігарня" — спроба не абысці ўвагай кожную больш-менш значную ластаўку ў беларускім кніжным акіяне. Будзем толькі рады, калі ўслед за газетнай інфармацыяй ці то лаканічнай анатацыяй да вас у дом завітае новая кніга. Тым больш сёння, калі песімісты прадракаюць будучым пакаленням суцэльную абездухоўленасць. Да сустрэчы! І новых вам кніжных набыткаў! Няхай жа на гэта заўсёды хапае грошай у вашых кішэнях!





*У мінулую нядзелю ў гонар заснавання сабора іконы Божай Маці "Усіх гаротных радасць" была закладзена капсула з граматай, якую прачытаў і асвяціў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі. Гэта будзе адзін з самых вялікіх праваслаўных храмаў Беларусі.*

*На тэрыторыі сабора будуць пабудаваны прытулак для састарэлых, званіца, нядзельная школа, майстэрня, дзе будуць працаваць інваліды, вадасвятная падкалодзежная капліца.*

**Фота Сяргея БРУШКО.**

## РОДНАЕ СЛОВА

# Гаворым па–беларуску

### *Зьміцер Санько "Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем"*

*Слышал звон, да не знает, откуда он* — Гавораць, гамоняць, ды не ведаюць, дзе звоняць; Чуе звон, ды не ведае, дзе ён; У кумы не прападзе, не прычуе, то перакладзе; Няхай бы яшчэ гаманілі, каб ведалі, дзе званілі.

*Смех без причины — признак дурачины* — Па латках пазнаць скупога, а па смеху — дурнога; Дурня па смеху пазнаеш.

*С милым рай и в шалаше* — Хоць у будане жыць, абы з каханым быць; Хоць пад лаўкаю сядзець, абы на харошага глядзець; Хоць без хлеба пасяджу, але ж на любага пагляджу; Хоць у адной лёлі (сарочцы), абы па любові.

*С миру по нитке — голому рубашка* — Крыха да крыхі — збярэцца торба; Нітка да ніткі — беднаму сарочка; Зерне да зерня, будзе поўная мерня.

*Снявши голову, по волосам не плачут* — Як не стала хлеба, дык і нож не трэба; Дзе прапала кароўка, там няхай і вяроўка; Чорт па той траве, калі барану па галаве; Не да парасят, калі свінню смаляць; Няма чаго зубы правяраць, калі сэрца становіцца.

*Солдат спит — служба идёт* — Кухар спіць, а суп кіпіць; Бабка спіць, а гусей пасе.

*Соловья баснями не кормят* — Салаўі пяюць, ды хлеба не даюць; З гутаркі хлеба не наясі; Усялякая гамонка да хлеба добрая; Што па той чэсці, калі няма чаго есці.

*Старого воробья на мякине не проведёшь* — Старога ліса не ашукаеш; Старога вераб'я на мякіну не зловіш (не падманіш).

*Старость — не радость, не красные дни* — Старасць — не радасць, а смерць — не пацеха; Старасць — не радасць, а маладосць не на век; Старасць — не радасць, а горб — не карысць; На старасці і ўлетку холадна; Старая баба і ў пятроўку на печы мерзне.

*Стыд не дым, глаза не выест* — Гразь — не кароста, сорам — не дым; Ад сарама карысці няма; Хоць саромна, ды скаромна; Сорам не воран — вочы не выдзяўбе; Ад сораму вочы не павылазяць; Сорам можна і ў кішэнь схаваць; Калі сорам, дык закрыйся.

*Сытый голодного не разумеет* — Багаты беднаму не спагадае; Сыты галоднаму не спагадае; Грашоўны (заможны) бедаку не спагадае; Здаровы не верыць хвораму, а багаты — беднаму; Хто сам бяды не зазнаў, той беднаму веры не дасць; Багаты не ведае, чым бедны абедае.

*Там хорошо, где нас нет* — Добра там, дзе нас няма; На Падоллі пірагі па коллі, а мы прыйшлі і там іх не знайшлі; Там вароты пірагом падпёрты.

*Терпи, казак, — атаманом будешь* — Цярпі гора, будзей й мёд; Цярпі, Грышка, карчма блізка; Хто цярплівы, той шчаслівы; Без цярпення няма збаўлення.

## СВЕЦКАЯ ХРОНІКА

# Кватэра – таксама частка славутасці

Цяперашні год аказаўся багатым на наваселлі славутасцей. Чамусьці менавіта зараз здзяйсняюцца мары многіх "зорак" эстрады і тэлебачання пра паўнацэннае жыллё. Пасля двухгадовага пражывання ў гасцініцы перасяліліся ў новую кватэру ў Замаскварэччы Уладзіслаў Лісцьеў і яго жонка Альбіна. Каштавалі цяперашнія апартаменты ім у 60 тысяч даляраў. Прыкладна столькі ж Улад і Альбіна патрацілі на тое, каб абсталяваць жыллё на свой густ. Нічога дзіўнага, Альбіна — мастак па спецыяльнасці, эстэтычны густ Улада маглі ацаніць тэлегледачы. Асабліва шмат сіл і энергіі пайшло на афармленне ваннага пакоя. На прыступках для сходу ў ванну ўстаноўлены керамічныя цацкі з Кітая, душ і краны для ракавіны Улад набыў у Грэцыі пад час вясенняга круіза туды перадачы "Поле цудаў". У Германіі набыты фіранкі для ваннай — яны з пластыку пад метал. Для Улада Лісцьева гэта ўжо трэцяя кватэра — папярэднія ён высакародна пакідаў сваім жонкам.

Прыкладна ў гэты ж час пара Прасняковых-Арбакайтэ ўехала ў трохпакаёвую кватэру на Беғавой. Гаспадары афармілі яе ў "заходнім" стылі: максімум белага, чорная мэбля, карціны ў манеры імпрэсіянізму. На наваселлі прысутнічалі, між іншым, Вятліцкая, Вашчокін, Дзіма Малікаў, браты Міхалковы, Федзя Бандарчук, які, паводле водгукаў сведак, падарыў вельмі дарагія гаспадару кніжныя паліцы. Сама Крысціна кінула ў пустую, з—за нязграбнасці Бандарчука, сцяну велізарны торт, і жадаючыя цалаваліся са сцяной, злізваючы крэм і шакалад.

Гэта наваселле адбылося ўжо пасля "бацькоўскага" — Алы Пугачовай і Філіпа Кіркорава. Яны абсталявалі сабе жыллё з трох размешчаных на адной лесвічнай пляцоўцы кватэр, у доме, дзе юны Філіп жыў разам з бацькам Бедрасам Кіркоравым і маці Вікторыяй Кіркоравай. Пара спадзяецца, што на новым месцы камфорт жыллёвы будзе дапаўняцца мілымі настальгічнымі ўспамінамі Філіпа аб сваім дзяцінстве.

Задаволіў у цяперашнім годзе свае жыллёвыя прэтэнзіі і спявак Сяргей Пенкін, які ў параўнанні з іншымі "зоркамі" эстрады патрабуе самыя вялікія ганарары за свае канцэрты. Яго патрабаванні не заўсёды задавальняюць, таму і канцэртаў Пенкін дае параўнальна мала, затое ўжо калі выступае — атрымліваецца і відовішчна, і вельмі выгадна. Ва ўсякім разе менавіта пасля серыі сольных канцэртаў у "Расіі" ён змог пераехаць з аднапакаёвай кватэры ў пяціпакаёвую ў цэнтры горада, яшчэ купіў сабе шыкоўнае футра, а на дзень нараджэння запрасіў 800 чалавек і арганізаваў ім раскошны стол, на што і патраціў, паводле яго слоў, усе грошы, якія былі ў яго пасля выступлення ў "Расіі". Затое будзе што ўспомніць.

А вось Рома Жукаў, эстрадная зорка якога пачала, паводле меркаванняў крытыкаў, памалу гаснуць, вымушаны быў пакінуць вельмі нядрэнную кватэру і перасяліцца ў іншую, адрас якой трымае ў вялікім сакрэце. Адбылося гэта пасля таго, як рэкеціры сталі вельмі настойліва дамагацца ў Жукава па тэлефоне яго кроўна заробленых.

Так што, сустракаюцца на шляху "зорак" і церні.

**Барыс САФРОНЕНКА.**




### УЗНАГАРОДЫ СЦІНГА

*Сцінг прызнаны самым папулярным брытанскім выканаўцам, які скарыў Амерыку.*

Спявак прысутнічаў у Лондане на цырымоніі ўручэння ўзнагарод брытанскім кампазітарам за лепшую музыку, выкананую па амерыканскаму радыё і тэлебачанню, дзе і атрымаў дзве галоўныя ўзнагароды. Лепшай песняй 1994 года была прызнана песня Сцінга "Калі я калі-небудзь страчу веру ў цябе".

### "ЗОРНЫЯ ВОЙНЫ" ПРАЦЯГВАЮЦЦА

*Доўгачаканы фільм–працяг "Зорных войнаў" стане першым на новай Галівудскай супер–студыі.*

Рэжысёр Джордж Лукас пачаў ужо работу над сцэнарыем, але выхад гэтага фільма чакаецца толькі ў 1997 годзе. Пагаворваюць, што студыя, створаная выдатным трыо — Сцівенам Спілбергам, Джэфры Кацэнбергам і Дэвідам Джэфенам — плануе зняць яшчэ і працяг паспеўшага нашумець фільма "Адсюль да вечнасці".

### СІНАТРА ЗДЫМАЕЦЦА Ў КІНО

*Фрэнк Сінатра будзе выконваць ролю ў фільме сваёй дачкі Ціны.*

Легендарны выканаўца эстрадных песень згадзіўся іграць разам з Алімпіяй Дукакіс, якая будзе выконваць ролю яго страснай паклонніцы ў родным горадзе Сінатры Хабанене, штат Нью-Джэрсі.

### ШВАРЦЭНЕГЕР У РОЛІ ПРАДЗЮСЕРА

*Арнольд Шварцэнегер набыў права на новы фільм са сваім удзелам, які хутка выходзіць на экраны.*

Акцёр купіў правы на адным з аўкцыёнаў пасля адмовы прадзюсера. Прыкладны кошт фільма — каля 80 мільёнаў даляраў.

### ПАР РЫХТУЕЦЦА ДА ПРЫЕЗДУ Х'ЮСТАН

*У Паўднёва–Афрыканскай Рэспубліцы ідзе падрыхтоўка да турнэ Уітні Х'юстан.*

Арганізатарам спатрэбіцца 160 кіламетраў элетрычнага кабеля, тысячы метраў будаўнічага лесу, а таксама шмат электраэнергіі. Абслугоўваючы персанал будзе складацца з 200 целаахоўнікаў, 200 рабочых для сцэны і 270 тэлевізіёншчыкаў. Мяркуецца, што выступленні спявачкі наведаюць каля 180 тысяч чалавек.

### ЛЕГЕНДЫ – РАЗАМ

*Пол Макартні разам з легендай амерыканскага рок–н–рола Карлам Перкінсам запісаў некалькі песень спецыяльна для тэлебачання.*

Шоу, прысвечанае 40-гадовай кар'еры спевака, будзе трансліравацца з Амерыкі.

### КАРОЛЬ–СПЯВАК

*Спявак Ісак Хайс стаў каралём адной з правінцый Ганы.*

Музыкант прыступіў да будаўніцтва свайго палаца на зямлі, выдзеленай яму дзяржавай. Хайс атрымаў і новае імя — Нене Каці Осканасі, што азначае "Кароль, смелы воін, здольны ўтаймаваць "дзікіх жывёл". Паводле слоў новаспечанага караля, ён збіраецца прадоўжыць музычную кар'еру ў Амерыцы.

### ДАМАШНЯЕ "ЗОЛАТА"

*Малайзійскія ўлады канфіскавалі 200 кілаграм падробленага золата.*

Паводле прызнання 54-гадовага "ліцейшчыка", за год ён паспеў прадаць больш як паўтоны "залатых" брускоў коштам 5,5 тысячы даляраў за кілаграм.

### ПІКАСО ВЫКРАДЗЕНЫ ДРУГІ РАЗ

*7 карцін Пабла Пікасо былі выкрадзены з цюрыхскай прыватнай галерэі.*

Палотны ацэньваюцца ў 44 мільёны даляраў. Два з іх былі выкрадзены ў другі раз. З-за вельмі высокага кошту страхоўкі карціны не былі застрахаваны.

### НЯБОЖЧЫКА ПАДМЯНІЛІ?

*Амерыканскія гісторыкі звярнуліся ў суд Балтымара за дазволам правесці даследаванне астанкаў Джона Уілкса Бута, які ў 1865 годзе забіў прэзідэнта Аўраама Лінкальна.*

У спецыялістаў ёсць падазрэнні, што пад імем Бута быў пахаваны іншы мужчына. Паводле некаторых сцвярджэнняў, Бут пражыў доўгае жыццё і часам не адмаўляў сабе ў задавальненні расказаць сябрам, як ён застрэліў Лінкальна.

